# Наша свабода

№117(204) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

26 КАСТРЫЧНІКА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## Час для зімы

На гэтым тыдні заканчваецца дзеянне г.зв. летняга часу. У нядзелю, 28 кастрычніка, у 3 гадзіны ночы адбудзецца пераход на зімовы час. У гэты момант стрэлкі гадзінніка пераводзяцца на гадзіну назад.

## Мінюст касуе студэнцкае аб'яднанне

Праваабарончы цэнтр «Вясна» выказаў пратэст з нагоды падрыхтоўкі міністэрствам юстыцыі працэдуры ліквідацыі адзінай альтэрнатыўнай студэнцкай арганізацыі ў Беларусі – Задзіночанне беларускіх студэнтаў.

18 кастрычніка старшыня Рады гэтай арганізацыі Крысціна Вітушка была запрошаная на сустрэчу ў мінюст. Тамтэйшыя чыноўнікі паведамілі ёй аб тым, што рыхтуюць працэдуру ліквідацыі арганізацыі ў судовым парадку 10 кастрычніка. Радзе ЗБС было вынесенае чарговае папярэджанне за тое, што «назва арганізацыі на паштовай скрыньцы ў пад'ездзе і над уваходам у офіс не адпавядае зарэгістраванай назве арганізацыі ў міністэрстве юстыцыі».

«Вясна» заявіла, што «пераслед гэтай маладзёжнай арганізацыі з боку міністэрства юстыцыі носіць палітычны характар і звязаны з актыўнай дзейнасцю ЗБС у мабілізацыйнай кампаніі «Выбірай» падчас прэзідэнцкай кампаніі гэтага года».

Дарэчы, гэта не першы выпадак ціску на арганізацыю. Летась і ў гэтым годзе на сябраў ЗБС і аказваўся ціск з боку КДБ, у тым ліку па месцы вучобы, таксама рабіліся спробы вярбоўкі сяброў аб'яднання.

Кірэй МАНУЙЛА

**ЮБІЛЕІ**

## *Alma mater* большасці беларускіх урачоў

30 кастрычніка 1921 года ў складзе Беларускага дзяржаўнага універсітэта быў створаны першы ў Беларусі медыцынскі факультэт. Менавіта гэты дзень можна лічыць датай, ад якой вядзе сваю гісторыю беларуская сістэма медыцынскай адукацыі.

Праз 4 гады ад заснавання таго факультэта адбыўся і выпуск першых урачоў (21 чалавек). Уласна Беларускі дзяржаўны медыцынскі інстытут паўстаў у Мінску на ягоным грунце. Гэта было ў 1930 годзе.

Сёлета ён атрымаў статус вядучага медыцынскага універсітэта ў краіне. Тут навучаецца каля 4 тысяч студэнтаў, што складае болей за палову ад тых, хто навучаецца ва ўсіх медыцынскіх ВНУ Беларусі. У БДМУ існуюць 6 факультэтаў, прычым толькі тут у нашай краіне вядзецца падрыхтоўка стаматолагаў, гігіеністаў і медскладу Узброеных Сілаў.

Кірыла ПАЗЬНЯК

# В огне ищут 80 человек

*Около 80 человек считаются пропавшими без вести в катастрофе, случившейся в автомобильном туннеле Сен-Готард в швейцарских Альпах.*



Уже высказываются опасения, что количество погибших в результате столкновения двух грузовиков и последовавшего за этим пожара может значительно отличаться от уже подтвержденной цифры погибших – пока это 10 человек.

Пожарные и спасатели так пока и не могут приблизиться к эпицентру аварии. Ход операции осложняется из-за огня и густых клубов едкого дыма. Кроме этого, в туннеле обвалилась часть перекрытий.

Как заявил президент страны Мориц Лейенбергер, многие смогли выбраться наружу через вентиляционную шахту и пожарные выходы.

Пожар в альпийском туннеле Сен-Готард возник в результате лобового столкновения двух грузовиков.

Один из грузовиков вез автомобильные покрышки и брезент, которые воспламенились – отсюда и густой черный дым.

Сообщают, что некоторые водители оставили свои машины и успели выбежать из туннеля, другие же оказались в огненной ловушке.

По словам представителя швейцарской полиции Марио Риттера, сразу после катастрофы из туннеля доносились взрывы, а в самом туннеле видимость была нулевой, что не позволяло начать спасательные работы.

По словам другого полицейского, Герберта Планцера, некоторым из машин удалось развернуться, что позволило им выехать на воздух через северный въезд в туннель. Когда спасательные команды приблизились к месту происшествия, выяснилось, что пламенем охвачено еще несколько автомобилей.

На месте происшествия работают 150 пожарных и несколько спасателей.

Длина туннеля – 15 километров. Он является вторым по длине в мире.

Полагают, что столкновение произошло примерно в двух километрах от южного въезда в туннель.

Живущим поблизости от въезда рекомендовано оставаться дома и закрыть окна и двери, во избежание проникновения дыма в жилища.

Со времени катастрофы 1999 года в туннеле под Монбланом движение через туннель Сен-Готард стало более интенсивным.

В настоящее время туннель закрыт.

Корреспондент Би-би-си в Швейцарии Эмма-Джейн Кирби полагает, что новая катастрофа вызовет серьезные возражения против открытия туннеля под Монбланом, которое планировалось на ноябрь.

## Наступныя «Дажынкі» адбудуцца ў Полацку

Увосень наступнага году ў Полацку будзе ладзіцца рэспубліканскае свята «Дажынкі». З гэтай нагоды мясцовыя ўлады збіраюцца пабудаваць вялікі амфітэатар, прычым ня дзе-небудзь, а на самім Верхнім замку, ля сьцены Сафійскага сабору.

Месца, пра якое ідзе гаворка, памятае Рагвалода і Ўсяслава, тут, пракаветным часам, нарадзілася беларуская дзяржава, а таму яно зьяўляецца культавым. Статус гэты замацаваны і юрыдычным чынам: Верхні замак абвешчаны ахоўнай тэрыторыяй Полацкага дзяржаўнага гістарычнага запаведніка і там забароненае ўсялякае будаўніцтва.

Тым ня менш, у нетрах мясцовай вэртыкалі нарадзілася ідэя — збудаваць на Сафійскім пагорку амфітэатар, на якім і разгорнуцца галоўныя дажынкаўскія мерапрыемствы. Ідэю гэтую ўхваляе ня хто-небудзь, а сам кіраўнік гарадзкой вэртыкалі спадар Тачыла, а адзіны, хто яму апануе, — спадар Ушак, які займае пасаду загадчыка аддзелу культуры гарвыканкаму. Ён, практычна на самоце, і змагаецца за тое, каб амфітэатар быў збудаваны дзе ў іншым месцы.

*Заканчэнне на стар.3*

# Какими были, такими и остались

## *Глава МИД наконец-то прояснил ситуацию*

*Многие обращают внимание, что на тему отношений с внешним миром стали публично выступать некоторые высокопоставленные белорусские чиновники. Раньше, как правило, свои оценки положения Беларуси в мире позволял себе только ее руководитель.*

На последнем своем выступлении в Овальном зале Дома правительства Лукашенко заявил, что Запад будет вынужден признать результаты президентских выборов. И что терпения у него ждать признания хватит до конца года. Что будет потом, как-то осталось за кадром.

Если ожидания оправдаются, то Беларусь, в свою очередь, готова к самому широкому диалогу с Западом. В первую очередь, с Европейским Союзом. При этом главный акцент в становлении отношений с Европой официальный Минск намерен делать в экономической сфере. Что касается политической, то предлагается не «зацикливаться» на расхождениях. С рассуждениями на тему внешнеполитических перспектив Беларуси решил поделиться и глава МИД Михаил Хвостов. Его интервью белорусскоязычной газете «Звязда», видимо, предполагало, чтобы и российские дипломаты попотели над смыслом обнародованного.




В своем интервью глава внешнеполитического ведомства признает, что продолжает сохраняться элемент недоверия. И что у правящего режима был и остается свой собственный, отличный от европейского, подход в оценке экономической и политической ситуаций в Беларуси и за ее пределами. В частности, в Европе. Однако, победа Лукашенко на выборах, полагает Хвостов, создала новую политическую ситуацию, которая позволит нормализовать отношения с Европейским Союзом. С помощью развития торгово-экономических отношений.

Звучит неплохо. Вместе с тем, рассуждения Хвостова продемонстрировали такой уровень понимания времени, в котором живем, что это сильно озадачило его западных коллег и других. Понятно, что какой-то особой внешней политики белорусского МИД или другого ведомства не существует.

*Окончание на стр.3*

**СЕНСАЦЫІ**

## Российский Генштаб готовится вводить войска в Афганистан

Российский Генеральный штаб прорабатывает вопрос о вводе частей российской армии в Афганистан.

Как сообщает «Пресс-центр.Ru» со ссылкой на хорошо осведомленные источники в Генштабе, подразделения российской армии могут войти в Афганистан с целью временного пребывания на части его территории, контролируемой таджикскими отрядами Северного Альянса.

В настоящее время вопрос окончательно не решен и находится в стадии проработки и обсуждения.

## Ордэн пакутніку

Найвышэйшую ўзнагароду беларускай дзяржавы – ордэн Францыска Скарыны – уручыў учора Аляксандр Лукашэнка дзяржсакратару Саюза Беларусі і Расіі Паўлу Барадзіну. Гэты падарунак высокай маральнай каштоўнасці беларускі кіраўнік прымеркаваў да 55-годдзя з дня нараджэння кавалера. Але ж мы з вамі ведаем, што насамрэч былы загадчык крамлёўскай гаспадаркі ўзнагароджаны за тыя мужнасць і самаадданасць, якія ён праявіў, калі спачатку правёў некалькі месяцаў у нью-ёркскай вязніцы па абвінавачванні ў карупцыі ў асабліва буйных памерах, а потым – па той жа справе – на допытах у засценках швейцарскага правасуддзя. Дарэчы, авіяквіткі на падарожжы ў Швейцарыю, каб некалькі гадзінаў памаўчаць для следчага, П.Барадзін, па ягоных словах, заўсёды набывае сам. Вось дзе прыклад сапраўднага дзяржаўнага падыходу!

**КОРАТКА**

## Беларускія прадпрыемствы недаацэненыя

Галоўная праблема продажу акцыяў беларускіх прадпрыемстваў у тым, што яны недаацэненыя. Гэтак лічыць старшыня Камітэта каштоўных папераў Савета міністраў Валянцін Шухно. Ён таксама заявіў, што выбар інвестара трэба кантраляваць, бо гэта непасрэдна звязанае з пытаньнямі нацыянальнай бяспекі.

## У свабодных эканамічных зонах

У чатырох існуючых на сёння свабодных эканамічных зонах Беларусі зарэгістравана 189 прадпрыемстваў, дзе працуе каля 11 тысяч чалавек. Сёлета тут з'явілася каля 20 прадпрыемстваў, прычым больш за палову з іх у СЭЗ «Мінск». Прадпрыемствы беларускіх СЭЗ – у асноўным прамысловыя.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1515**



## Помнік міліцыянтам

Савет міністраў Беларусі выдаў пастанову «Аб ушанаванні памяці супрацоўнікаў органаў унутраных справаў і вайскоўцаў унутраных войскаў міністэрства унутраных справаў, загінуўшых пры выкананні службовага і воінскага абавязку».

У выніку ў сталіцы мусіць з'явіцца адмысловы помнік. Гэтая ініцыятыва сыходзіла ад МУС і была падтрыманая міністэрствам культуры і Мінгарвыканкамам. Пакуль невядома, як гэты помнік будзе выглядаць, бо толькі прынятае рашэнне аб яго праектаванні і будаўніцтве. А вось месца яго ўзвядзення ўжо вызначанае. Гэта будзе мінская вуліца Камуністычная.

Калі паўстане помнік памяці міліцыянтаў, таксама невядома. Дарэчы, фінансаванне ўсіх работ па стварэнні і ўстаноўцы помніка, як маркуецца, будзе ажыццяўляцца за кошт ахвяраванняў фірмаў, арганізацыяў і прыватных асобаў.

Мар'ян КАРЫМОНТ

ТУРМА

## Аўтапаркавае хабарніцтва

Да сямі гадоў пазбаўлення волі ў папраўчай установе ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй 50% маёмасці прыгавораны былы дырэктар Столінскага аўтапарка Міхаіл Галавач. Па рашэнні суда ён таксама пазбаўлены права на працягу пяці гадоў займаць кіруючыя пасады.

Крымінальная справа супраць Галавача была ўзбуджаная ў канцы мінулага года па частцы 2 артыкула 430 Крымінальнага кодэкса — атрыманне хабару ў асабліва буйных памерах паўторна і з вымагальніцтвам. Даказана, што былы кіраўнік браў грошы са сваіх падначаленых за новыя аўтобусы, запчасткі да старых аўтобусаў, за выгадныя рэйсы. Памер хабару ён устанаўліваў сам: ад некалькіх дзесяткаў да некалькіх соцень долараў. У судзе было падверджана дзевяць эпізодаў хабару.

Валянціна КАЗЛОВІЧ

АКЦЫІ

## Пікет спыніла немаўля

24 кастрычніка каля спецпрыёмніка-размеркавальніка па вуліцы Акрэсціна, сябры Маладога Фронту правялі пікет у падтрымку старшыні арганізацыі Паўла Севярынца, які з 16 кастрычніка адбывае 10 сутак арышту за маладафронтаўскую акцыю пратэсту супраць продажу МАЗа расійскаму капіталу.

Сябры МФ разгарнулі каля акрэсцінскага прыёмніка-размеркавальніка плакаты «Свабоду Севярынцу» і «Мняем Сашу на Пашу» і гэта ж скандзіравалі, але пікет працягваўся ўсяго каля 20 хвілінаў. Спачатку міліцыянты абыякава назіралі за тым, што адбываецца, аднак потым адзін з іх падышоў да маладафронтаўцаў і папрасіў спыніць пікет, бо, маўляў, у адным з суседніх жылых дамоў некалькі дзён таму нарадзілася дзіця і скандзіруючая моладзь проста перашкаджае яму спаць.

Алесь КАТОВІЧ

## Міліцыянт ачоліў ашуканых

Грамадскі камітэт ашуканых крэдытораў Брэсцкага аддзялення «БелКамбанка» і яго них філіялаў у Пінску, Століне і іншых райцэнтрах вобласці ачоліў былы афіцэр УУС аблвыканкама Віктар Аб'едкаў. Дзякуючы прафесіянальнаму досведу асочніка нарэшце сталі вядомымі прычыны фінансавага банкруцтва банка, з-за чаго прыкладна 7.000 чалавек на Брэстчыне страцілі 589.000 долараў. У чарговай скарзе на імя Лукашэнкі ашуканыя заклікаюць да ягонай «вышэйшай» справядлівасці, нагадваючы, што іх уласныя зберажэнні патрачаныя ў асноўным на крэдыты прыватных фірмаў і найперш беларуска-расійскага СП «Садружнасць». Брэсцкі «БелКамбанк» крэдытаваў будаўніцтва збожжамлынавага комплексу ў Краснадарскім краі. Але ў 1997 годзе там нібыта здарылася затапленне, у 1998 – павальны неўраджай і спусташальныя набегі грызуноў...

Мікола НЯЗЛОМНЫ

## «Вольны горад» пакінулі ў спакоі

У Крычаве закрытая крымінальная справа ў дачыненні да супрацоўнікаў мясцовай недзяржаўнай газеты «Вольный город».

Яна была ўзбуджаная па падазрэнні ў незаконным пазбаўленні волі чалавека, або, інакш кажучы, захопе заложніка. У якасці пацярпелага выступаў супрацоўнік міліцыі, які, як сцвярджалі журналісты, 12 жніўня пранік у офіс газеты, не прад'явіўшы адпаведныя дакументы.

У выніку Кастрычніцкі РАУС, які вёў справу, спыніў крымінальны пераслед журналістаў «Вольного города» з-за адсутнасці складу злачынства.

Канстанцін УВАРАЎ

КРЫМІНАЛ

## «Форд», багаты на валюту

31 тысяча 940 нямецкіх марак і 8 тысяч 50 долараў, утоеных ад дэкларавання, затрыманы ў пункце пропуску «Варшаўскі мост» мытні «Заходні Буг».

Як паведаміў БелаПАН у прэсслужбе ўпраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці, пасажыры мікрааўтобуса «Форд-Транзіт» наогул не мелі намеру дэкляраваць валюту. Пасля настойлівай просьбы мытніка, усе восем чалавек заявілі ў дэкларацыях аб тым, што правозяць валюту ў межах дазволеных сумаў — па 1,5 тысячы долараў.

Пасля гэтага супрацоўнік мытні прапанаваў жыхару Брэсцкай вобласці М. прайсці асабісты агляд. М. адразу ж выклаў на стол 29 тысяч 290 нямецкіх марак. Адначасова быў праведзены агляд мікрааўтобуса, пад абшыўкай якога было знойдзена 200 пачкаў цыгарэтаў. Як паведамілі БелаПАН у УКДБ, ва ўпраўленні была аператыўная інфармацыя аб тым, што М. меў намер вывезці за мяжу вялікую суму грошай. Пра гэта былі папярэджаныя супрацоўнікі мытні.

Валянціна КАЗЛОВІЧ

## Непатрэбная страхоўка

Пры аднолькавых патрабаваннях да абавязковага страхавання грамадзянскай адказнасці ўласнікаў асабістага транспарту і грамадскага (прыкладам, калгаснага), міліцыя на дарогах штрафуе за парушэнні першых і вымушаная даравацьдругім. Да 60 % сельскагаспадарчага машынна-трактарнага парка Брэстчыны сёлета не застрахавана. У большасці гаспадарак страхавыя полісы набываюць толькі для трактараў, якія выраблены пасля 1993 года. Астатнія страхаваць няма сэнсу, бо пры аварыі аднаўленне будзе ўсё роўна нерэнтабельным. Эканоміць вымушаюць таксама працаглыя прастоі транспарту з-за адсутнасці паліва, запасных частак і недахопу механізатараў. Паводле няпоўных дадзеных аблсельгасхарчу, зараз на прыколе ў гаспадарках больш як 3.000 трактараў і 1.200 грузавікоў.

Галіна БАРАВАЯ

СПРАВЫ

## Судзіцца сталі болей

Са статыстычных дадзеных па выніках працы Гаспадарчага суда беларускай сталіцы за першае паўгоддзе 2001 года можна зрабіць выснову, што мінскія фірмы і проста прыватныя асобы апошнім часам высвятляць эканамічна-гаспадарчыя адносіны праз суд сталі значна часцей.

Калі ў 1999 годзе ў сталічны Гаспадарчы суд паступіла 1.379 іскавых заяваў, у 2000 годзе – 1.427, то сёлета ўжо 2.086. Заяўленая там сума спагнанняў 38.980.028 тысячаў рублёў, але спагнана прыкладна палова ад гэтага.

Сярод вырашаных судом спрэчак – усяго гэта 1.604 справы – большую частку складаюць маёмасныя спрэчкі: 1.388 супраць 216 немаёмасных.

Кірэй МАНУЙЛА

## Лепшыя следапыты – у Пінску



Фота Ю. Шлапака

Пераможцамі спаборніцтваў на званне лепшай у памежных войсках Беларусі пошукавай групы, лепшых следапыта, інструктара службы сабак і кантралёра-інструктара службы сабак (апошнія нясуць службу ў пунктах пропуску на дзяржаўнай мяжы) сталі вайскоўцы Полацкага і Пінскага памежных атрадаў. Першынство праводзілася на мінулым тыдні ў Смаргоні на базе школы па падрыхтоўцы інструктараў службовых сабак.

Як паведаміў БелаПАН у прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта памежных войскаў рэспублікі, лепшай пошукавай групай прызнаная пошукавая група з Полацкага памежнага атрада. Лепшымі следапытамі і інструктарам службы сабак сталі старшы лейтэнант Павел Сцяцэнка і сяржант Віталь Корань з сабакам па клічцы Унга з Пінскага памежнага атрада. Прадстаўнік гэтай жа часці прапаршчык Руслан Шчыкаў з сабакам Аякс другі год запар прызнаны лепшым кантралёрам-інструктарам службы сабак.

У якасці назіральнікаў і ганаровых гасцей на спаборніцтвах прысутнічалі спецыялісты-кінолагі з унутраных войскаў, спецыяльнага падраздзялення па барацьбе з тэрарызмам «Алмаз», цэнтральнага апарата МУС, Службы бяспекі прэзідэнта, Дзяржаўнага мытнага камітэта і кіналагічнай службы памежнага ведамства Латвійскай Рэспублікі. На наступных спаборніцтвах — у 2002 годзе — латвійскія спецыялісты маюць намер выставіць сваю каманду.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ

ЗДАРОЎЕ

## Дзеці павінны мець здаровае харчаванне

Забеспячэнне дзяцей якаснымі прадуктамі харчавання з'яўляецца адной з актуальных задач беларускай педыятрычнай службы. Пра гэта заявіла галоўны педыятр міністэрства аховы здароўя Беларусі Ірына Мітрашэнка, выступаючы 24 кастрычніка ў Мінску на рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Харчаванне і здароўе дзяцей. Актуальныя пытанні дзіцячай гастраэнтэралогіі».

Паводле словаў Мітрашэнка, найбольш часта захворванне органаў стрававання — гастрыт і функцыянальныя расстройствы страўніка — сустракаецца ў дзяцей ад 9 да 14 гадоў. І паколькі хваробы органаў стрававання напрамую звязаныя з фактарам харчавання, толькі правільная арганізацыя і кантроль за якасцю харчавання дзяцей з моманту нараджэння, у тым ліку ў дзіцячых садках і школах, могуць прывесці да зніжэння гэтых захворванняў. На сённяшні дзень дзіцячае харчаванне ў Беларусі выпускаюць 4 прадпрыемствы канцэрна «Белдзяржхарчпрам». На малочнай аснове яго вырабляюць ААТ «Беллакт» і Рагачоўскі малочна-кансервавы завод, на пладова-агародніннай аснове — Маларыцкі кансервава-агароднінасушыльны камбінат і Клецкі кансервавы завод. Дзіцячае харчаванне, паводле яе словаў, прызначанае для карэкцыі рацыянальнага харчавання па вітамінным і мінеральным складзе для ўсіх узроставых групаў. Да слова, згодна са статыстыкай, у Беларусі жывуць каля 250 тысяч дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў і больш за 90 тысяч — да 1 года.

Вольга АСІПЕНКА

ДАПАМОГА

## Семінар па рэабілітацыі інвалідаў

Рэспубліканская асацыяцыя інвалідаў-калясачнікаў (РАІК) возьме ўдзел у Міжнародным семінары па актыўнай рэабілітацыі, які пройдзе з 25 кастрычніка па 1 лістапада ў мястэчку Замосць (Польшча).

Як паведаміў старшыня РАІК Сяргей Драздоўскі, праграмай семінара прадугледжанае правядзенне трэніровак і тэарэтычных заняткаў для інвалідаў-калясачнікаў. Удзельнікі таксама будуць навучацца майстэрству ваджэння або карыстання каляскай актыўнага тыпу, а дыпламаваныя інструктары па актыўнай рэабілітацыі пройдуць курс па гімнастыцы для калясачнікаў. У семінары таксама возьмуць удзел інваліды-калясачнікі з Польшчы, Швецыі, Украіны і Літвы.

Вольга АСІПЕНКА

## Усебеларускі конкурс прыгажосці

Галоўная задача II рэспубліканскага конкурсу прыгажосці «Міс «Журавінка», які пройдзе 3 лістапада ў культурна-забаўляльным цэнтры «Журавінка», — знайсці новыя твары, новых прыгожых дзяўчат. Пра гэта 23 кастрычніка на прэс-канферэнцыі ў Мінску расказаў арт-дырэктар «Журавінкі» Юрый Брэўс.

У адборачных турах конкурсу прыгажосці «Міс «Журавінка», якія прайшлі ў Мінску, Магілёве, Брэсце, Гродне, Гомелі, Віцебску і Наваполацку, узялі ўдзел больш за 500 беларускіх прыгажунь ва ўзросце ад 17 да 23 гадоў і не ніжэй 170 см. 12 дзяўчат выйшлі ў фінал. Паводле словаў Юрыя Брэўса, галоўны крытэрый адбору грунтаваўся на пошуку «разынкі». У адрозненне ад конкурсаў прыгажосці, у якіх бяруць удзел прафесійныя мадэлі, маючыя на мэце заключыць выгадныя кантракты, «Міс «Журавінка» — гэта «проба сілаў, калі хочацца, экстрым».

У барацьбе за галоўны прыз конкурсу — «Фіят Пунта» — дзяўчатам давядзецца ўзяць удзел у пяці дэфіле, у тым ліку ў народных строях, у купальніках, у вячэрніх сукенках і г.д. Плануецца, што пераможцы будуць вызначаны ў 6 намінацыях.



Весці шоу і інтэрв'юіраваць дзяўчат будзе Генадзь Давыдзька — дырэктар тэатра Янкі Купалы. У канцэртнай праграме ўдзел возьмуць выключна мужчыны, у прыватнасці, саліст Венскай оперы Рыгор Паляшчук.

БелаПАН

## Пацярпела ад кандуктара

17-гадовая гамяльчанка атрымала сур'ёзныя траўмы галавы і была дастаўленая ў бальніцу ў выніку паездкі на гарадскім маршрутным аўтобусе.

Як тлумачыць пацярпелая, ледзьве яна паспела зайсці ў аўтобус, як да яе звярнулася кандуктар з патрабаваннем аплаціць праезд. Дзяўчына адмовілася плаціць, паколькі збіралася праехаць усяго адзін прыпынак. Пацярпелая сцвярджае, што ў гэты момант кандуктар — жанчына 55 гадоў — яе штурханула, і яна выпала з аўтобуса, які яшчэ не паспеў зачыніць дзверы, і ўдарылася галавой аб асфальт. У Гомельскай абласной бальніцы ў яе ўстанавілі закрытую чэрапна-мазгавую траўму, пашкоджанне галаўнога мозгу і закрыты пералом косці зводу чэрапа. Міліцыя пакуль праводзіць праверку дадзенага выпадку, у прыватнасці, спрабуе знайсці сведкаў інцыдэнту ў аўтобусе.

Ірына ШАНЦАВА

ТЭАТР

## Мецэнацкая прэм'ера ў Купалаўскім

28 кастрычніка на Малой сцэне сталічнага Нацыянальнага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адбудзецца прэм'ера спектакля «Дом, дзе спяць прыгажуні» паводле п'есы амерыканскага драматурга Дэвіда Генры Хуана. Гэта першы творчы праект Купалаўскага тэатра, ажыццёўлены на грошы спонсараў.

Яны не проста прадаставілі тэатру на пастаноўку 3 тысячы долараў, але і ўзялі на сябе распрацоўку і ўвасабленне сцэнічнай прасторы, стварэнне афішы, спецыяльнай падарункавай праграмкі і г.д. Паводле словаў купалаўцаў, упершыню сцэнаграфія спектакля стваралася ў складаным спалучэнні тэатральных, у некаторым сэнсе нетрадыцыйных традыцыяў, і наватарскіх, смелых і нават ультрамодных тэндэнцыяў.

Галоўнага героя «Дома, дзе спяць прыгажуні» — японскага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Ясунары Кавабата — іграе заслужаны артыст Беларусі Аляксандр Падабед, яго спадарожніцу — Тамара Пузіноўская. Паставіў спектакль малады рэжысёр Дзмітрый Марынін.

Паводле словаў Аляксандра Падабеда, ідэя паставіць гэты спектакль узнікла ў яго больш як год таму. Але паколькі п'еса напісаная не беларускім драматургам і па гэтай прычыне не з'яўлялася прыярытэтнай для рэпертуару тэатра, артысты пачалі рэпеціраваць яе ўпотай.

Па словах дырэктара Нацыянальнага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Генадзя Давыдзькі, у адрозненне ад антрэпрызных праектаў, выгадных для спонсараў, пастаноўка спектакля «Дом, дзе спяць прыгажуні» — «чыстай вады мецэнацтва».

Маша ПЯТРОВА

# Суд па Завадскім

*Учора адбылося другое паседжанне Мінскага абласнога суда па справе аб выкраданні аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага. Як чакаецца, працэс па справе, якая налічвае амаль 50 тамоў, працягнецца некалькі месяцаў.*

Першае паседжанне, што адбылося ў сераду ў будынку Вярхоўнага суда Беларусі, доўжылася тры гадзіны. Яно было перапыненае пасля таго, як галоўнаму з абвінавачваемых – былому афіцэру атрада спецыяльнага прызначэння «Алмаз» Валерыю Ігнатовічу – сталася кепска ў зале суда. Медыкі «хуткай дапамогі», што прыехалі па выкліку, засведчылі, што працягваць суд немагчыма. Хутчэй за ўсё, кепскі стан здароўя «спецназаўца» тлумачыцца наступствамі ягонай шматдзённай галадоўкі. Галадоўку абраў Валерый Ігнатовіч, каб даказаць, што не мае дачынення да знікнення і магчымага забойства Дзмітрыя Завадскага.

Судовае паседжанне праходзіць у закрытым рэжыме. Як паведаміў у інтэрв'ю «Интерфаксу» старшыня Вярхоўнага суда Беларусі Валянцін Сукала, на гэтым настаялі пяць чалавек, якія сведчаць супраць злачынцаў. Нагадаем, што сярод падсудных – тры чалавекі, што мелі дачыненне да спецслужбаў.



Святлана Завадская

Не дазволіў суд прысутнічаць на працэсе і прадстаўніку ад ОРТ. На працэс былі дапушчаныя толькі сваякі пацярпелых і загінуўшых. Побач з будынкам суда на ўсялякі выпадак стаяў аўтобус з байцамі АМАПа.

Відаць, у гэтых жа мэтах суд не дазволіў жонцы Дзмітрыя Завадскага Святлане мець свайго прадстаўніка ў судзе – юрыста Цэнтра прававой дапамогі Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэя Бастунца. У якасці матывіроўкі свайго патрабавання С.Завадская патлумачыла, што гадуе непаўнагадовае дзіця і не мае магчымасці штодня прысутнічаць на працэсе, таму асабісты прадстаўнік ёй бы вельмі дапамог. Але суддзя Аляксандр Сіманаў адмовіўся задаволіць патрабаванне, і ў выніку інтарэсы Святланы Завадскай і маці тэлежурналіста Вольгі Завадскай адстойвае адзін адвакат – Ігар Аксёнчык.

Абвінавачваемыя – Аляксей Гуз, Валерый Ігнатовіч, Максім Малік і Сяргей Савушкін – аддзеленыя ад прысутных у зале двух дзесяткаў сваякоў пацярпелых шчыльным колам міліцыянтаў.

Адзначым, што і Вольга, і Святлана Завадская выказваюць сумнеў, што «банда Ігнатовіча» сапраўды мае дачыненне да знікнення іхняга сына і мужа. «Судзяць не тых людзей», – казала маці аператара перад пачаткам працэсу. Святлана Завадская таксама паведаміла, што ў дакументах справы, з якімі яна азнаёмілася, няма яскравых пацверджанняў віны менавіта гэтых людзей у выкраданні яе мужа. Аднак па іншых злачынных эпізодах іх могуць асудзіць на смерць.

Тым часам, на прэс-канферэнцыі ў Маскве калега Д.Завадскага Павел Шарамет наўпрост заявіў, што загад на выкраданне тэлежурналіста даваў асабіста Віктар Шэйман, тады – дзяржсакратар Савета Бяспекі. Пры гэтым П.Шарамет спасылаецца на звесткі, што ён атрымаў улетку ад былога генеральнага пракурора Беларусі Алега Бажэлкі. Той некалькі месяцаў хаваўся ад беларускіх спецслужбаў ў Маскве, а потым у адным з манастыроў у Яраслаўскай вобласці. Нядаўна ён вярнуўся ў Мінск.

Тыя, хто прысутнічае на судзе, адзначаюць, што працэс ідзе вельмі марудна. У прыватнасці, суддзі даводзіцца ўвесь час паўтараць свае словы вельмі гучна, таму што абвінавачваемы Сяргей Савушкін кепска чуе (або робіць такі выгляд).

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Наступныя «Дажынкі» адбудуцца ў Полацку

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Аргумэнты, якімі апэруюць адэпты такой ідэі, наступныя: амфітэатар, маўляў, станецца своеасаблівым прыцягальным цэнтрам, зробіць пракаветную мясьціну культурніцкай дамінантай, да таго ж, схілы Сафійскага пагорку надта зручныя дзеля разьмяшчэньня падобнага аб'екту, і, да ўсяго, правядзеньне «Дажынак» непасрэдна ля муроў Сьвятой Сафіі — патрабаваньне тэлевізійнікаў, якія будуць даваць на тэлеэкраны сьвяточную «карцінку».

Карэспандэнт Радыё Свабода зьвяртаўся да работнікаў Полацкага гістарычнага запаведніка з просьбай пракамэнтаваць сытуацыю, але яны ад камэнтароў устрымаліся, сказаўшы, што пытаньне прывязкі амфітэатру яшчэ канчаткова ня вырашанае. Праўда, адна з жанчын з жалем у голасе заявіла, што нават за брэжнеўскім часам, калі ў кожным двары стаялі так званыя агітпляцоўкі, будаваць іх на Сафійскім пагорку не выпадала.

Ну, а мясцовае грамадзтва ўспрыняла такую ідэю крайне нэгатыўна: вядомы краязнаўца Міхась Баўтовіч паведаміў Радыё Свабода, што палачане сьвятое месца скрыўдзіць не дадуць і, у выпадку станоўчага рашэньня аб будаўніцтве амфітэатру на Верхнім замку, зьбіраюцца апэляваць ня толькі да гісторыкаў нашай краіны, але й да эўрапейскай грамадзкасьці. Тым часам на Верхнім замку ўжо пачалі высякаць старыя дрэвы. Праўда, паводле заявы кіраўніка камунальных службаў, робіцца гэта не ў зьвязку з будучым будаўніцтвам, а дзеля асьвятленьня тэрыторыі.

**Вінцэсь МУДРОЎ**
**Радыё «Свабода»**



# Какими были, такими и остались

*Окончание, начало на стр.1*

Это вам не ситуация с возможностью сделать примаковский разворот самолета в воздухе при больном президенте. Как отмечал предшественник Хвостова, в Беларуси проводится одна политика – президентская. Поэтому все перлы министра иностранных дел вполне можно считать озвучиванием того, что ему приходилось слышать от своего хозяина. Общеизвестно, что оттуда слышны нередко оригинальные высказывания.

Некоторые считают, что из соседей самые сложные отношения у Беларуси с Польшей. Хвостов считает, что после парламентских выборов, на которых победили польские социал-демократы, отношения между двумя странами улучшатся. Как будто последние пять лет у Польши был другой президент. Правда, в Польше не президентская, а парламентская республика. Но не стоит забывать, что Александр Квасьневский идейно близок к победившим на выборах левым демократам. Он стоял у истоков Союза левых демократических сил.

Правда и то, что в политической элите Польши существует консенсус по основополагающим вопросам евроатлантической интеграции. И в Минске должны бы знать, что, став членом *NATO*, Варшава успешно ведет переговоры с Брюсселем о вступлении Польши в Европейский Союз. Поэтому совершенно непонятны те места в интервью, где Хвостов говорит о том, что рассчитывает на то, что Польша «начнет проводить более самостоятельную политику в отношении Беларуси, а не оглядываться на Запад». И глава МИД конкретизирует, что имеет в виду известные решения Евросоюза в отношении Беларуси. При всей абсурдности таких надежд, все же есть основания подозревать о причинах таких высказываний. Похоже, на всякий случай, готовится почва для скандала.

Дело в том, что, по информации некоторых московских источников, в первой декаде ноября может состояться международная конференция по вопросам борьбы с терроризмом. Вернее, это может быть саммит группы европейских государств, бывших в одном социалистическом лагере. О планах созыва такого саммита якобы говорили в Кремле президенты России и Польши. Высокому гостю из Варшавы, как утверждают источники, принадлежит эта инициатива.

Понятно, что не пригласить белорусского президента на такой саммит представляется весьма затруднительным. Надо полагать, на участии будет настаивать Москва. Как это произошло и с предстоящей калининградской встречей премьеров России, Литвы, Польши и Беларуси. Так что Лукашенко готов ехать на любой саммит. Но с очевидными двумя условиями: официальное приглашение и равноправное участие. А не такое, какое когда-то ему предлагалось президентом Украины для участия в Ялтинском саммите глав центральноевропейских государств и правительств.

Но что касается возможного саммита, то пока ведь никто в Европейском Союзе не отменял решений об избирательных контактах с официальным Минском. Вернее было бы сказать, о нежелательности контактов лично с Лукашенко. Вот и позволяют себе его чиновники публично призывать, к примеру, Польшу «не оглядываться на Запад». Кстати, следует признать, что в состав нынешнего польского Сейма было избрано немало противников Евросоюза. Может быть, и к ним адресованы призывы из Минска?

Помянут был в любопытном интервью министра и другой сосед Беларуси – Литва. Оказывается, правящему режиму в Беларуси не нравится объявление Литвой «критического диалога» с Беларусью. При этом как профессиональный дипломат Хвостов счел необходимым похвалить поляков за отсутствие, в отличие от литовцев, менторского тона. Более того, глава МИД счел уместным напомнить, что Польша по политическому влиянию, экономическому потенциалу, территории и человеческим ресурсам превосходит Литву.

Интересно, знает ли Хвостов сам или он сознательно лишь озвучил мнение другого, на каких принципах взаимодействуют в евроатлантических структурах их государства-участники. Что-то никто из этих структур не сбегает, а только стремится в них попасть. А уж если приводить конкретные примеры уровня взаимопонимания между Польшей и Литвой, то можно главе МИД и другим напомнить следующее.

Буквально на следующий день после своего визита в Москву Квасьневский счел необходимым приехать в Каунас, где с президентом Литвы Адамкусом поделился своими впечатлениями и достижениями. Существует и режим постоянных консультаций, обмена мнениями на высоком уровне и между другими соседями Беларуси. Так что пытаться играть на тех различиях между Польшей и Литвой, о которых в своем интервью говорил Хвостов, лишь доказывает, что какими они там наверху в Минске были, такими и остались. И призывы не «зацикливаться» на расхождениях, так словами и остаются.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

ТЭНДЭНЦЫІ

## Отмена репрессивного увольнения

В Кличеве под председательством судьи Комара состоялось рассмотрение гражданского дела по иску преподавательницы иностранного языка Людмилы Гущи к Кличевскому аграрно-техническому колледжу о восстановлении ее на работе.

Л. Гуща была уволена администрацией колледжа за активное участие в наблюдении за выборами Президента Республики Беларусь в качестве координатора наблюдателей Кличевского района. Администрация по собственной воле либо по подсказке «сделала» ей несколько прогулов и издала репрессивный приказ. Представитель истца доказал суду наличие грубых нарушений трудового законодательства, и ответчик признал исковые требования.

Л.Гуща восстановлена судом на прежнем месте работы с выплатой денежной компенсации за время вынужденного прогула. Кроме того, ей возмещен моральный вред, причиненный незаконным увольнением. Суд принял во внимание «нищенское», со слов ответчика, положение колледжа и определил компенсацию в размере 25.000 рублей.

**Отдел информации**

## Израильтяне уходят из палестинских поселений

Израильские военнослужащие утром в четверг покинули палестинскую деревню Бейт-Рима на Западном берегу реки Иордан, сообщает *Reuters*.

По разным данным, за сутки израильского присутствия в Бейт-Риме погибли от пяти до двадцати палестинцев. Как сообщили в командовании израильской армии, целью рейда на деревню был арест палестинских террористов, ответственных за убийство израильского министра Зеэви.

На данный момент сведения о всеобщем прекращении военной операции и выводе израильских частей с других территорий не поступали.

Как сообщалось ранее, командование израильской армии настаивает, что операция должна закончиться только в случае выполнения палестинцами ряда условий и обеспечения безопасности в регионе. Вывод войск, по мнению военных, должен осуществляться поэтапно и выборочно, в зависимости от степени напряженности в каждом конкретном районе.

За последнюю неделю, в ответ на убийство 17 октября 2001 года министра по туризму Израиля Рехаваама Зеэви, израильская армия вошла в шесть палестинских городов.



# В Шанхае победил бин Ладен

*Шанхайскую встречу президентов России и США многие наблюдатели склонны были воспринимать как возможный прорыв в двусторонних отношениях. Еще бы! Президенты встречались впервые после событий 11 сентября, на саммите АТЭС Путин должен был выглядеть одним из наиболее лояльных союзников Буша на фоне руководителей мусульманских стран и осторожного Китая.*

И, тем не менее, обсуждать конкретные вопросы президентам оказалось гораздо труднее, чем необходимость борьбы с международным терроризмом.

Действительно, после каждой декларации возникает простой вопрос: что дальше? Означает ли необходимость такой совместной борьбы отказ Соединенных Штатов от идеи создания ПРО или отказ России от противодействия этому созданию?

Переговоры показали, что не означает. Означает ли необходимость такой совместной борьбы выработку общего подхода в вопросе о будущем Афганистана? Переговоры показали, что не означает. Означает ли необходимость такой совместной борьбы выработку общего понимания сроков и целей военной операции — не только, кстати, афганской? Переговоры показали, что не означает; да, собственно, еще и до встречи президентов, по обмену мнениями между руководителями внешнеполитических ведомств, можно было сделать такой вывод.

Поездка Владимира Путина в Душанбе и его встреча с Эмомали Рахмоновым и Бурхануддином Раббани стала как бы послесловием к российско-американским переговорам. Москва стремится к тому, чтобы в результате операции американцев в Афганистане в стране была восстановлена власть «Северного альянса».

Москва категорически против участия представителей движения «Талибан» в будущем коалиционном правительстве, так как считает это движение пособником международного терроризма. В переводе с дипломатического на политический это заявление Путина означает стремление России включить Афганистан — во всяком случае на переходный период, до проведения неких выборов, которые в нынешних политических условиях выглядят чем-то из разряда ненаучной фантастики, — в российскую сферу влияния в регионе, причем сделать это американскими руками, так как сам «Северный альянс» всерьез противостоять талибам не может.

При этом в Москве как-то не отдают себе отчета в том, что «Северный альянс», как региональное объединение, не имеющее в своих рядах влиятельных пуштунских представителей, не способен установить контроль над югом страны.

Американцы, очевидно, отдают себе в этом отчет. Но руководствуются все же несколько иными мотивами. Во-первых, в Вашингтоне понимают, что поддержка «Северного альянса» может серьезно сказаться на американско-пакистанском сотрудничестве: альянс не скрывает своего негативного отношения к Исламабаду и даже сейчас, когда, казалось бы, пришло время найти общий язык с пакистанским политическим руководством и убедить его в своей лояльности, лидеры «Северного альянса» продолжают выступать с жесткими заявлениями в адрес Исламабада. Во-вторых, американцы, вероятно, совершенно не понимают, почему это их военная операция в Афганистане должна привести к созданию пророссийского режима в этой стране.

В дело вступают уже хорошо известные по практике прошлых лет соображения энергетического характера: американцам, как и Пакистану, и Саудовской Аравии, нужна в Афганистане сильная власть, способная обеспечить безопасность трубопроводов. И «умеренные талибы» — читай талибы без бин Ладена — даже сейчас предпочтительнее для США, чем вечно воюющие друг с другом полевые командиры «Северного альянса», не способные к тому же контролировать южные территории и границу с Пакистаном. При этом тот очевидный факт, что никаких умеренных талибов не бывает и любая из фракций движения рано или поздно вновь начнет финансироваться кем-либо из фанатиков типа бин Ладена, США и их союзниками попросту игнорируется. Но соображения прикладного политического порядка понятны.

Как понятны они и в случае с Россией. Почему бы ни заполучить без особых усилий лояльный режим на границах стран Центральной Азии, поставив под сомнение возможность альтернативных газопроводов, конкурирующих с маршрутами «Газпрома»?

Все это весьма разумно. Только выигрывающими в этой ситуации выглядят не Джордж Буш или Владимир Путин. Выигравшим после Шанхая выглядит Усама бин Ладен.

**Виталий ПОРТНИКОВ**
**Grani.ru**



# Кірзавыя боты альтэрнатывы не маюць

*У Беларусі пачынае разгортвацца чарговая восеньска-зімовая прызыўныя кампанія. Пасля медаглядаў і Калядаў з Новым годам у студзені 2002-га пад ружжо на тэрміновую службу ў беларускай арміі стануць блізу 18 тысячаў хлопцаў. 13 тысяч з іх апынуцца ва Узброеных Сілах, астатнія 5 тысяч – гэта будучыя памежнікі і жаўнеры ўнутраных справаў і Камітэта дзяржаўнай бяспекі.*

Паводле прагнозаў вайсковых кіраўнікоў, недакамплекту ў армейскіх шэрагах не будзе. Хоць ухіленцаў па завядзёнцы будзе некалькі сотняў чалавек. Самы ж няўдалы для армейскага прызыву ў гэтым сэнсе 1992 год. Між іншым, за адмову служыць можна не толькі падпасці пад грашовы штраф, але і пазбавіцца на колькі гадоў волі.

Недабор галоваў пад пілоткі ў беларускім войску можа стацца рэальнасцю пры адсутнасці армейскіх рэформаў гадоў праз дзесяць. Прычына – чакаецца дэмаграфічны крызіс. У бліжэйшыя 10-15 гадоў насельніцтва Беларусі мусіць скараціцца дзесьці да 8 мільёнаў. Да ўсяго ўжо зараз кожнаму дзевятаму беларусу за 60 гадоў. Так што мы будзем проста вымушаныя скарачаць сваю армію і пераводзіць яе на прафесійную аснову.

Што да прэстыжу арміі, то, паводле сацыялагічных даследаванняў, пра нейкую значнасць вайсковай службы ў сваім жыцці сказалі толькі 3% апытаных студэнтаў ВНУ, 14% ПТВэшнікаў і 19% старшакласнікаў. А катэгарычна адмоўна да службы ў войску ставіцца каля 20% моладзі.

Прызваным сёлета давядзецца служыць па цяпер дзеючых тэрмінах. А вось ужо наступнаму прызыву можа пашэнціць насіць парцянкі і боты трохі меней. Рэч у тым, то зараз у Савеце міністраў разглядаецца праект Закона «Аб вайсковым абавязку», паводле якога тыя, хто не скончаў ВНУ, будуць служыць 12 месяцаў, асобы з вышэйшай адукацыяй — 9 месяцаў (зараз адпаведна 18 і 12 месяцаў). Выпускнікам вышэйшых навучальных установаў, якія праходзілі там праз ваенныя кафедры, давядзецца паслужыць 6 месяцаў. Раней, як вядома, яны наогул былі вызваленыя ад перабывання ў арміі. Так што некаторая «каштоўнасць» для студэнцтва ў ваеннай кафедры значна знівелюецца.

Беларускіх хлопцаў, што падлягаюць прызыву і мусяць апрануць ваенную форму, ніхто не пытаецца, хочуць яны таго ці не. Тут гэта для іх, як кажуць, без варыянтаў. Прадэклараванае Канстытуцыяй Беларусі права на альтэрнатыўную службу ахвотныя да гэтага ажыццявіць не могуць, бо няма адмысловага закона. З ім цягнуць які ўжо год. Каб запабегчы масаваму ігнараванню звычайнай вайсковай службы, меркавалася, што пры яе тэрмінах для асобаў з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй у паўтара года і год час альтэрнатыўнай службы будзе паболей таго – адпаведна 27 і 18 месяцаў. Праходзіць яна будзе ў тым ліку ў калгасах і на заводах з магчымасцю штоночы бываць дома і з зарплатай у памеры 80% ад зробленага. Але калі будзе прыняты новы Закон аб вайсковым абавязку, гэтыя лічбы тэрміну альтэрнатыўнай службы могуць быць таксама перагледжаныя.

Рыхтуюцца да напружанай працы па выяўленні нягодных і ўрачы медкамісіяў. Ім трэба пастарацца не дапусціць так званага «медыцынскага браку». У кожны прызыў дзесьці каля сотні навабранцаў не праходзяць у арміі ваенна-ўрачэбных аглядаў і вяртаюцца да цывільнага жыцця. Што да здароўя беларускіх хлопцаў, то ў сярэднім годнымі да службы прызнаюцца прыкладна 55% прызыўнікоў. Самыя кволыя ў Беларусі – маладыя менчукі. Вайскоўцы часта згадваюць адну з нядаўніх прызыўных кампаніяў, калі ў Заводскім раёне сталіцы былі забракаваныя ажно 89% дзецюкоў. Як то будзе сёлета?

**Кірэй МАНУЙЛА**


Фота Ул. ШЛАПАКА

Пачаставацца салдацкай кашай любіць болей хлопцаў, чым служыць у войску

## Апраменьваюцца не вышэй нормы

У Дзяржаўным камітэце пагранічных войскаў Беларусі падведзеныя вынікі тактыка-спецыяльных вучэнняў, якія на мінулым тыдні пагранічнае ведамства праводзіла на беларуска-ўкраінскім участку мяжы сумесна са спецыялістамі Камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Савеце міністраў Беларусі і супрацоўнікамі Гомельскага філіяла Інстытута радыяцыйнай медыцыны. Падчас гэтых вучэнняў памежнікі Гомельскага пагранатрада былі абследаваныя на прадмет выяўлення фактычнага ўзроўню апраменьвання радыенуклідамі.

Як паведамілі БелаПАН у прэсцэнтры Дзяржкамітэта пагранвойскаў, спецыялістамі ўстаноўлена, што дозы апраменьвання больш за 600 абследаваных памежнікаў не перавышаюць дапушчальныя нормы. У той жа час у некаторых ваеннаслужачых былі выяўленыя дозы, перавышаючыя сярэдняе па абследаваных значэнне. Для далейшага абследавання і рэабілітацыі яны будуць накіраваныя ў 2-гі шпіталь пагранвойскаў, які знаходзіцца ў Снове (Мінская вобласць). Высветлілася, што ў большасці сваёй гэтыя ваеннаслужачыя — жыхары Гомельскай вобласці, — якія грэбавалі рэкамендацыямі санітарна-гігіенічнага характару, займаючыся паляваннем, збіраючы грыбы і ягады.

Паўторнае абследаванне гомельскіх памежнікаў плануецца правесці праз год. Акрамя таго, у бліжэйшых планах кіраўніцтва пагранічнага ведамства — абследаванне ваеннаслужачых Пінскага пагранічнага атрада.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

ЭКСПРЭС

## Прогнозы, долги, расчеты

### Колхозы загибаются

Кредиторская задолженность предприятий агропромышленного комплекса Беларуси достигла 1 трлн. рублей и в 5 раз превышает дебиторскую. Такой огромный долг возник из-за выравнивания курсов доллара к белорусскому рублю во второй половине прошлого года. Мол, для закупки зерна перерабатывающие предприятия в 2000 году взяли валютные кредиты, а резкий рост официального курса повлек за собой убытки в размере 50 млрд. рублей.

### Коммунальные увеличат, что будет следующим?

По словам министра жилищно-коммунального хозяйства Александра Милькота, в проект бюджета республики на 2002 год внесено предложение вдвое повысить оплату жилищно-коммунальных услуг. В соответствии с предложением предусматривается, чтобы население платило не 20, а 40% от себестоимости предоставляемых жилищно-коммунальных услуг. Если оно будет принято, плата за трехкомнатку, например, в отопительный сезон составит 47 тысяч в месяц. Изменения не затронут действующую систему безналичного субсидирования населения, предусматривающую поддержку граждан в случае, если стоимость коммунальных услуг превышает 15% совокупного дохода семьи.

### Злая шутка Нацбанка

Недавно глава Национального банка Беларуси Петр Прокопович на встрече с парламентариями сообщил, что Нацбанк подготовил проект указа о компенсации в течение 20 лет всех вкладов населения, обесценившихся после 1990 года. В настоящее время проект находится в Совете министров, и пока правительство выступает против его принятия. В сообщении главы Нацбанка указывалось, что по состоянию на 1 июля 2001 года обязательства государства по компенсациям вкладов населения составляют 1 миллиард 250 миллионов долларов США.

**Андрей КАРПОВИЧ**

# Хлопчык-магілёўчык, *або Новасібірская язва*

*Я вось таксама хлопчык з Магілёва. Магу нават пабіць таго, хто скажа, што я – дзяўчынка, і не магу пагадзіцца з папрокамі на адрас беднага Ягоркі Рыбакова, які нарадзіўся ў 1971 годзе, што ён менавіта праз свой узрост не можа кіраваць беларускім дзяржтэлерадыё. Мне дык толькі 27 гадоў, але ўжо дзесятак з іх я рэгулярна гляджу БТ і адчуваю сябе такім старым, такім старым... Проста шчасце, што мяне пасля нараджэння ў Магілёве вывезлі за межы БССР, куды я вярнуўся толькі за месяц да канца існавання гэтай БССР. Аднак BSSR-TV жывейшае за ўсіх жывых. «Тэлебачанне для пенсіянераў усіх узростаў» – гэтак пазіцыянуе сябе на рынку першы ды апошні нацыянальны тэлеканал.*

Зрэшты, слова «рынак» тут не да месца. Беларусы хутчэй маюць тэлевізійны «славянскі базар» – адно БТ, адно СТВ, якое збольшага *REN-TV*, яшчэ шмат расейскіх каналаў, а ў Брэсце і Гродне – па-няправільнаму, панатаўску славянскія праграмы з Польшчы. Карацей, такі перакос у бок Масквы, што я часам называю сябе абанентам фірмы «КосМОС-TV», хаця дзякуючы ёй гляджу розныя *CNN* ды «*Euronews*».

Але найбольш цікавыя адкрыцці былі зробленыя мною зусім не на канале «*Discovery*». Галоўным геаграфічным адкрыццём для мяне назаўжды застанецца фраза з цітраў прагнозу надвор'я пасля нейкага выпуску навінаў БТ пару гадоў таму: «Па ўсходняму захаду дажджы». Калі б сам не ўбачыў на тэлеэкране, ніколі б не паверыў, што такое можна напісаць.

А якая багатая фанетычная палітра ў дыктараў! Мне давялося неяк задзейнічаць газету «Имя», каб прымусіць Інгу Хрушчову адмовіцца ад вымаўлення «універсТЫтэт».

А як цікава было прачытаць з таго ж блакітнага тэлеэкрана фрагмент дасланага мне электроннага ліста Тамары Віннікавай, які я сам не паспеў дастаць са сваёй паштовай скрынкі ў інтэрнэце...

Што ні кажы, а БТ – гэта цуд, як і ўсё БТР – Беларускае тэлебачанне і радыё.

Некаторыя нядобразычліўцы называюць БТ «першым антынацыянальным тэлеканалам». Яшчэ больш злыя ды прыхільныя да тарашкевіцы языкі, наглядзеўшыся «Тайных спружынаў» з «Рэзанансамі», пачулі саманазву БТ як «першы нацы- й анальны тэлеканал».

Нельга не пагадзіцца з такімі характарыстыкамі. Бо я помню, як усё пачыналася. Калі Алеся Круглякова і згаданую Хрушчову зрабілі новымі тварамі «Панарамы», мне прапаноўвалі стаць вядучым тыднёвай аналітычнай праграмы. Чамусьці кіраўнікі БТ былі заўжды ўпэўненыя, што аналітыка на гэтым тэлеканале можа быць толькі рускамоўнай. У гэтым сваім перакананні яны дайшлі да таго, што сталі выпускаць на выхадныя аж дзве нервна-паралітычныя праграмы на рускай, як ім здаецца, мове – вытворчасці Аляксандра Зімоўскага і Юрыя Казіяткі. Тэлегледачы ўжо забыліся, што Зімоўскі яшчэ раней меў партнёра па «аналітыцы па-руску» – Ігара Грышана, якога, аднак, хутка з'елі ды саслалі ў не менш антынацыянальную цяпер «Народную газету», дзе ён служыць намеснікам рэдактара.

Але варта нагадаць, што першым зімоўскім на БТ быў Павел Шарамет, які рабіў нядзельную аналітычную праграму «Праспект» – першую перадачу такога кшталту на рускай мове. Тады гэта было незвычайным. Цяпер незвычайнай ва ўсіх праграмах БТР выглядае беларуская мова.

Пасля галасавання Аляксандра Лукашэнкі на леташніх выбарах у Палату прадстаўнікоў я задаў яму пытанне, чаму з БТ знікае беларуская мова і чаму ён загадаў паведамляць пра сябе толькі па-руску. «Дзе гэта вы пабачылі?» – тэатральна здзівіўся Лукашэнка, але ўжо праз пару сказаў сам заявіў: «Але і я ўбачыў гэты перакос». Тады ж ён паабяцаў, што для БТ рыхтуюцца новыя журналісты, якія будуць добра валодаць як беларускай, гэтак і рускай мовамі.

Замест гэтага ўсе «жывыя» эфіры Агенцтва тэлевізійных навінаў сталі толькі рускамоўнымі. Падводку прачытаць – на гэта дыктарам беларускай мовы яшчэ хапае, а задаць пытанне карэспандэнту – не.

Яшчэ мяне вельмі ўразіла перадачка «Добры дзень, Беларусь!» Адна з вядучых там – аўтарка штосуботняй сексуальна заклапочанай калонкі ў «Советской Белоруссии» Танюша Сулімава. Гэтую Танюшу толькі на праспект Скарыны паміж цыркам і домам-музеем першага з'езда РСДРП выстаўляць – не, не ўначы, як вы падумалі, а ўдзень, прычым з рэкламным плакатам «Советская Б. – солидная г.». А яна чамусьці ў кадры апынулася і нават зацягнула ў сваю перадачку Генадзя Давыдзьку з Купалаўскага тэатра.

Танюша С. яму пытанне па-руску задае, а той толькі па-беларуску адказвае. Вы думаеце, яна перайшла на беларускую? Не, працягвала з «абарыгенам» гутарыць на гасударсцвенным языку, ды яшчэ з бравадОй (націск Танюшы С.), а ў канцы паабяцала запрасіць госця на эфір яшчэ раз. Як той казаў, абяцанка – цацанка, а Генадзю Д. – радасць.

Яшчэ большая радасць напаткала ўсіх гледачоў і асабліва супрацоўнікаў БТ у выглядзе новага старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі. Калі ў часы старшынявання ў дзяржтэлерадыё першага сакратара ЦК КПБ таго называлі МакЧыкінам, а ягонага першага намесніка Ягора Рыбакова дзякуючы прозвішчу – ФішМакам, дык пасля звальнення Чыкіна за Ягорам замацавалася толькі клічка «Хлопчык» (як варыянт – «магілёўскі хлопчык», хаця нарадзіўся ён у Новасібірску). Але ж пасля вялікай кастрычніцкай тэрарыстычнай рэвалюцыі на поўнце ЗША ды чарговай рэвалюцыі на БТ тэлевізійныя кулуары пачалі зваць Рыбакова «Новасібірскай язвай».

11 верасня я сказаў у жывым эфіры Радыё Свабода, што адзіным эвакуяваным хмарачосам у Мінску выглядае будынак тэлебачання на вуліцы Макаёнка. Бо ўсе расейскія тэлеканалы давалі жывую карцінку з Нью-Йорка, а па БТ паказвалі трагікамедыю «Лунны папа».

Цяпер усебеларускі месяцавы тата – праз месяц пасля інаўгурацыі – прызначыў кіраваць тэлерадыёкампаніяй чалавека, якога яшчэ да тэрактаў называлі на БТ зброяй масавага знішчэння (ці вынішчэння з эфіру). Але журналісты па-за межамі БТР упэўненыя, што для сапраўдных рэформаў на тэлебачанні не хопіць нават «новасібірскай язвы». Каб дасягнуць станоўчых вынікаў, спецыялісты лічаць неабходным эвакуяваць усіх людзей і дашчэнту зруйнаваць Макаёнка, 9. І гэта не перабольшванне. Там такі дух, такая структура і такое абсталяванне, што прасцей і танней гэта ўсё ліквідаваць цалкам і ствараць новае з нуля.

Відавочна, што на гэта Ягор Рыбакоў не здольны. Нагадаю яшчэ адзін эпізод, пра які забыліся. Упершыню ў Мінск Рыбакова прыцягнуў не Рыгор Кісель, першы Лукашэнкаў старшыня дзяржтэлерадыё. Гэта зрабіў шырока вядомы Аляксандр Фядута, які ўладкаваў 23-гадовага Ягорку ў сваё ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі прэзідэнцкай адміністрацыі на пасаду вядучага спецыяліста. А да таго Рыбакоў змагаўся з карупцыяй на старонках газеты «Могилевские ведомости». Мабыць, тады Фядута і заразіўся ад яго бацылай карупцыяфобіі, што праявілася толькі цяпер, праз 7 гадоў, але толькі ў дачыненні да апазіцыі. Як бачым, узрост хваробы ды ўзрост чалавека не маюць асаблівага значэння. Хаця Фядута вельмі хутка зразумеў, што хлопчыка лепш вярнуць назад у Магілёў, бо рэфармаваць галіну грамадска-палітычнай інфармацыі ў Мінску Ягорка не можа і ніколі не зможа.

Таму справа не ва ўзросце. Мне не было яшчэ і 19 гадоў, калі я стаў штатным уласным карэспандэнтам у Мінску Усерасійскае дзяржаўнае тэлерадыёкампаніі (РТР). Дарэчы, я першым паказаў на вялікім расійскім тэлеэкране дэпутата Вярхоўнага Савета 12 склікання Аляксандра Лукашэнку — інтэрв'ю для «Вестей» з нагоды ягонага даклада пра барацьбу з карупцыяй. «Навошта ты гэтага ідыёта на Маскву перадаеш? – заявіла мне тады тагачасная карэспандэнтка праграмы «Время» ў Беларусі Людміла Вілюга і дадала: – Нельга смецце з хаты выносіць».

З гэтай прымаўкай я ніколі не пагаджуся. Калі б я раптам стаў – нават будучы «хлопчыкам» – старшынёй НДТРК, дык найперш павыносіў бы смецце з Макаёнка, 9. Але, згадваючы першую частку заўвагі спадарыні Вілюгі, лічу, што пачынаць працэдуру трэба з іншага мінскага адраса, што на рагу двух нямецка-камуністычных класікаў – Маркса ды Энгельса. Таму кіраваць БТРам мяне, відаць, найбліжэйшым часам не прызначаць.

**Юры СВІРКО**

# Мінск мае гімн!

*«Песня пра Мінск» на музыку Уладзіміра Алоўнікава і словы Ігнація Панкевіча стала афіцыйным гімнам беларускай сталіцы. За гэта прагаласавалі дэпутаты Мінскага гарадскога Савета.*

Як заявіў выступіўшы на сесіі намеснік старшыні Мінгарвыканкама Васіль Гурын, «Песня пра Мінск» мае «ярка выражаны ўрачысты характар», з'яўляецца сімвалам адзінства і «выклікае патрыятычныя пачуцці», яе «любяць розныя пакаленні мінчан», яна не прывязаная да канкрэтнай сітуацыі і заўсёды мае сучаснае гучанне. Акрамя таго, песня «мае зручны вузкі гукавышынны рад, які дазваляе выконваць мелодыю нават музычна непадрыхтаванаму чалавеку, не маючаму значных вакальных дадзеных».


Фота Ул. ШЛАПАКА

Паводле інфармацыі Гурына, камісія атрымала згоду сына Алоўнікава Ігара і дачкі Панкевіча Вольгі — уладальнікаў аўтарскіх правоў — на выкарыстанне «Песні пра Мінск» у якасці гімна сталіцы.

Рабочая група па падрыхтоўцы прапановаў аб гімне беларускай сталіцы была створаная ў кастрычніку мінулага года сумесным рашэннем Мінгарвыканкама і Мінгарсавета. У групу ўвайшлі вядомыя беларускія кампазітары і літаратары: Ігар Лучанок, Вольга Іпатава, Віктар Войцік, Міхаіл Дрынеўскі, Уладзімір Карызна і іншыя. Як паведаміў Гурын, яны праслухалі 23 творы пра Мінск, прадастаўленыя фанатэкай Беларускага радыё. Па прапанове старшыні гарвыканкама Міхаіла Паўлава па Сталічным тэлебачанні (СТВ) была арганізаваная трансляцыя гэтых твораў з мэтай вызначэння сімпатыяў гледачоў. «Абсалютная большасць з больш чым 5 тысяч гараджанаў, якія адгукнуліся на прапанову, выказаліся за шырока вядомую больш за 40 гадоў «Песню пра Мінск» выдатнага беларускага кампазітара, класіка беларускага музычнага мастацтва Уладзіміра Алоўнікава на словы вядомага беларускага паэта Ігнація Панкевіча», — паведаміў Гурын.

Адначасова з мэтай «прыцягнуць дадатковыя творчыя сілы, даць магчымасць у большай меры праявіць свой талент сённяшняму пакаленню паэтаў і кампазітараў» з 1 лютага па 1 ліпеня 2001 года праходзіў конкурс праектаў гімна. У ім узялі ўдзел 83 паэты і кампазітары, якія прадставілі 24 закончаныя творы.

Паводле словаў Гурына, за выключэннем «Песні пра Мінск», ніводзін з твораў «не адпавядаў у поўнай меры мастацкім патрабаванням, што прад'яўляюцца да гімна сталіцы». Кампазітар Ігар Лучанок зняў свае творы «Песня о Минске» і «Баллада о Минске» на карысць свайго настаўніка Алоўнікава.

Па рашэнні камісіі ўсе творы пра беларускую сталіцу будуць запісаныя на кампакт-дыск і выпушчаныя ў продаж. Сама «Песня пра Мінск» атрымае новую музычную аранжыроўку і будзе гучаць у больш павольным тэмпе.

Згодна з зацверджаным дэпутатамі палажэннем, гімн Мінска выконваецца пры адкрыцці і закрыцці сесіяў Мінгарсавета і паседжанняў Мінгарвыканкама, прысвечаных дзяржаўным святам Беларусі; штодзённа перад пачаткам і заканчэннем перадачаў гарадскіх тэлевізійных і радыёстанцыяў; пры адкрыцці помнікаў, манументаў, абеліскаў і іншых збудаванняў «у азнаменаванне найважнейшых гістарычных і грамадска-палітычных падзеяў»; пры сустрэчы і праводзінах наведваючых Мінск з афіцыйнымі візітамі кіраўнікоў заканадаўчай і выканаўчай улады сталіцаў замежных краінаў пасля выканання гімна сталіцы адпаведнай замежнай дзяржавы і ў шэрагу іншых выпадкаў. Пры выкананні разам з дзяржаўным гімнам Беларусі гімн Мінска выконваецца пасля яго. Дэпутаты адхілілі прапанову аднаго з калегаў выконваць гімн на чыгуначным вакзале сталіцы падчас прыбыцця цягнікоў міжнародных зносінаў: такіх цягнікоў цераз Мінск праходзіць шмат, і пастаяннае выкананне гімна будзе перашкаджаць інфармаванню пасажыраў па радыё.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Аўтар дэкрэта не разумеў, што такое НАНБ

Ацэнку дэкрэта прэзідэнта №25 «Аб павышэнні ролі навукі і рэфармаванні Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі», даў у інтэрв'ю газеце «Звязда» былы прэзідэнт НАНБ, цяперашні старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Аляксандр Вайтовіч.

Датычна зместу дакумента, на думку старшыні Савета Рэспублікі, дэкрэт «недапрацаваны». Ён бачыць у ім толькі дзве нормы, якія «цягнуць змяненне існуючай заканадаўчай базы»: пункты аб прызначэнні прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук і складу прэзідыума. «Найбольш прынцыповы пункт — аб прызначэнні прэзідэнта НАН прэзідэнтам Беларусі, — адзначыў А.Вайтовіч. — Нагадаю, што Акадэмія навук была створаная ў кастрычніку 1928 года. За ўсю яе гісторыю прэзідэнт акадэміі выбіраўся заўсёды. Нават у СССР, калі краіна пасля вайны была разбураная, калі трэба было даць адэкватны адказ амерыканскім распрацоўкам ядзернай зброі, Акадэмія навук не падверглася рэвалюцыйнаму рэфармаванню. І вучоныя далі тое, што ад іх чакалі. Навуковая праца мае сваю спецыфіку. І тады гэта разумелі. Мы сёння таксама ў цяжкім становішчы. І гэты дэкрэт з'явіўся, верагодна, менавіта па гэтай прычыне. Аднак я ўпэўнены, што так дзейнічаць нельга. Навуковая творчая праца дае найбольшую аддачу, калі вучоны не заціснуты нейкімі рамкамі. З іншага боку, калі прэзідэнт акадэміі прызначаецца ўказам, то не выключана, што гэтую пасаду можа заняць чыноўнік, які не з'яўляецца прафесіяналам і не мае аўтарытэту сярод вучоных. І наступствы могуць быць непрадказальнымі. Існуе рызыка, што яго не ўспрыме вучоная супольнасць». Акрамя таго, можа здарыцца, што прызначаны кіраўнік акадэміі «не будзе ўспрыняты замежнымі калегамі, а сама акадэмія можа трапіць у нейкай ступені ў міжнародную ізаляцыю».

Яшчэ адзін пункт дэкрэта, на якім старшыня Савета Рэспублікі засяродзіў увагу, тычыцца прызначэння ў склад прэзідыума акадэміі не толькі акадэмікаў НАНБ, але і прадстаўнікоў іншых установаў. «Тут я бачу неразуменне таго, як увогуле пабудаваная акадэмія, — сказаў А.Вайтовіч. — Прэзідыум у ёй з'яўляецца кіруючым адміністрацыйным органам. Дзе вы



бачылі, каб орган кіравання, адміністрацыя нейкай установы складалася з асобаў іншых установаў?»

Аляксандр Вайтовіч сумняваецца, што Нацыянальны сход пры разглядзе дэкрэта пойдзе на тое, каб дзвюма трацямі галасоў заблакіраваць яго дзеянне. «Для гэтага трэба, каб была вялікая воля членаў абедзвюх палат, — сказаў ён. — Я не памятаю прыкладу, каб які-небудзь дэкрэт прэзідэнта не быў ухвалены. Калі такое здарыцца, то гэта будзе першы выпадак».

**Алег САКАЛОЎ**

# МКАД паўзе на Курапаты

*Працы па рэканструкцыі Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогі (МКАД) у раёне Курапатаў могуць аднавіцца на наступным тыдні. Пра гэта заявіў генеральны дырэктар рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Магістральаўтадар» Анатоль Лыцін на сустрэчы з прадстаўнікамі грамадскай ініцыятывы «За ратаванне мемарыяла Курапаты», якая адбылася на тэрыторыі ўрочышча.*

Паводле яго словаў, праект рэканструкцыі МКАД у раёне Курапатаў прадугледжвае толькі працы па добраўладкаванні дарогі — збудаванне дзвюх стаянак для легкавых аўтамабіляў і двух пешаходных падземных пераходаў. Як адзначыў Лыцін, дарожнікі не могуць выканаць прапановы грамадскасці па ўстаноўцы на дарозе чатырох указальнікаў «Курапаты — месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсіяў» і збудаваць помнік з тэкстам «Тут, у лясным масіве Курапаты, знаходзяцца астанкі ахвяраў масавых рэпрэсіяў». «У межах аўтастаянак мы можам устанавіць два дарожныя ўказальнікі з надпісам «Урочышча Курапаты», — заўважыў Лыцін. Паводле яго словаў, у раёне Курапатаў плануецца таксама ўстанавіць парапетную загароджу ўздоўж дарогі. «Дакументы, атрыманыя з пракуратуры і ад вучоных-археолагаў, дазваляюць весці будаўнічыя працы па рэканструкцыі дарогі ў раёне Курапатаў», — заключыў Анатоль Лыцін.

Як адзначыў намеснік в.а. старшыні Кансерватыўна-хрысціянскай партыі-БНФ Сяргей Папкоў, усе валанцёры, якія на працягу месяца ажыццяўляюць кругласутачнае дзяжурства ў Курапатах, выступаюць за будаўніцтва МКАД у абыход урочышча. «Нас могуць выносіць з Курапатаў наперад нагамі, аднак мы будзем абараняць урочышча да апошняга. Калі ў дзяржавы няма сродкаў на будаўніцтва аб'язной дарогі, збярэм народныя грошы», — заявіў Папкоў.

Старшыня рады незарэгістраванага маладзёжнага аб'яднання Малады Фронт Дзмітрый Каспяровіч перадаў кіраўніцтву «Магістральаўтадара» копію звароту ва ўрад жыхароў мікрараёна Зялёны Луг-6. У гэтым дакуменце, пад якім стаіць больш за 500 подпісаў, жыхары мікраёна патрабуюць пабудаваць кальцавую аўтадарогу ў абыход Курапатаў.

Падчас сустрэчы прадстаўнікі грамадскай ініцыятывы «За ратаванне мемарыяла Курапаты» пачалі збор подпісаў пад зваротам да Савета міністраў Беларусі. У ім ураду прапаноўваецца сумесна з грамадскасцю абмеркаваць магчымасць аб'язнога варыянта пракладкі МКАД, у абыход Курапатаў.

Неабходна ўзняць усё грамадства на абарону Курапатаў, лічыць пастар Беларускай евангельскай царквы Эрнст Сабіла. Пра гэта ён заявіў на сустрэчы грамадскасці з прадстаўнікамі канфесіяў, што адбылася ў канферэнц-зале сталічнага гатэля «Юбілейны». Акцыя была ініцыіраваная Беларускай арганізацыяй працоўных жанчын у рамках грамадскай ініцыятывы «За ратаванне мемарыяла Курапаты».

Святар назваў «подлай і гнюснай» спробу рэканструкцыі Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогі ўздоўж існуючай восі, якая рассякае мемарыял. Паводле яго словаў, вернікі ставяцца да любога месца пахавання як іудзеі, якія спрадвеку захоўваюць магілы продкаў. Пастар расказаў, што ў 1951 годзе быў рэпрэсіраваны і ў лагерах ГУЛАГа зведаў эпідэміі, голад і здзекі. «Я ледзьве пазбегнуў смерці, можна сказаць, адной нагой стаяў у Курапатах, і таму сёння сярод вас. Сумна, што мы жывём сярод страшнага народа, які адракаецца ад сваіх мёртвых продкаў», — падкрэсліў святар. Паводле яго словаў, калі прадстаўнікоў розных канфесіяў краіны «не змог аб'яднаць Бог, то нас аб'яднаалі Курапаты, дзе ляжаць людзі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў». Пастар прапанаваў узвесці ў Курапатах капліцу, у якой маглі б праводзіць набажэнствы ўсе рэлігійныя абшчыны краіны.

Старшыня мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь муфцій Ізміл Александровіч і прадстаўнік кіраўніцтва царквы адвентыстаў сёмага дня Васіль Ложачнік таксама асудзілі факты апаганьвання пахаванняў.

Настаяцель мінскай Свята-Васкрасенскай царквы айцец Уладзімір зазначыў, што летась Беларуская праваслаўная царква правяла першае перапахаванне астанкаў людзей, якія загінулі ў Курапатах. У адпаведнасці з хрысціянскімі звычаямі былі пахаваныя людскія астанкі, якія аказаліся на паверхні ў выніку дзейнасці «чорных следапытаў». Па словах святара, у раёне, што прылягае да ўрочышча, будзе збудаваная капліца і ўстаноўленая агароджа. Разам з тым айцец Уладзімір заклікаў дзяржаву не шкадаваць сродкаў для добраўпарадкавання Курапатаў, якія з'яўляюцца нацыянальным сімвалам.

Галоўны рэдактар газеты «Рабочы» Віктар Івашкевіч заклікаў прадстаўнікоў канфесіяў садзейнічаць публічнаму дыялогу грамадскасці з дзяржавай аб лёсе Курапатаў. На яго думку, трэба шукаць цывілізаванае, мірнае выйсце з сітуацыі, калі добраахвотнікі, якія цэлы месяц дзяжураць ва ўрочышчы, могуць падвергнуцца гвалту з боку ўладных структураў. Івашкевіч заклікаў святароў правесці памінанне «бязвінна забітых» у Міжнародны дзень памяці ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, які адзначаецца 30 кастрычніка.

Кансультатыўны савет апазіцыйных палітычных партыяў (КСАПП) на паседжанні 24 кастрычніка прыняў зварот да прэм'ер-міністра Беларусі Генадзя Навіцкага.

Лідэры апазіцыйных палітычных партыяў выказваюць заклапочанасць абвастрэннем сітуацыі вакол будаўніцтва Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогі ў раёне ўрочышча Курапаты. Яны патрабуюць ад урада неадкладна наладзіць публічны дыялог паміж урадам — з аднаго боку, і ўсімі зацікаўленымі арганізацыямі — з другога, аб лёсе Курапат як гістарычна-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі. На час дыялога працы па будаўніцтве аўтадарогі павінны быць спыненыя.

**БелаПАН**


Фота IREX/ProMedia

# Умоўны рэфлекс рэканструявання

Вельмі хацелася б памыліцца ў сваіх прадчуваннях, але, здаецца, ніякія высілкі грамадскасці ўжо не спыняць наступ дарожнікаў на ўчастак тэрыторыі Курапатаў, прылеглы да МКАД. Улада прыняла такое рашэнне, і відавочна, што яно палітычнае. Пацверджаная археолагамі адсутнасць захаванняў у той зоне, якая прызначаная пад пакрыццё асфальтам, дазваляе уладам не клапаціцца ніякімі маральнымі перажываннямі. Тым болей, што ў Мінску наступ на могілкі – з'ява традыцыйная. Напачатку 70-х гадоў былі зруйнаваныя могілкі на Залатой горцы. Можна знайсці тысячы людзей, якія былі сведкамі «вычышчэння» пад сквер для адпачынку працоўных габрэйскіх могілак на вул. Сухой. Сталі дарослымі дзеці, якія гулялі чарапамі ў футбол пры зруйнаванні былых праваслаўных могілак на Старажоўскай. У тыя ж 70-я гады ўлады меркавалі пачысціць пад парк Кальварыйскія могілкі, самыя старыя ў Мінску. Скандальная варварская задума была спыненая толькі пагрозай бунту з боку тысяч людзей, для чыіх родных і сваякоў Кальварыя стала месцам вечнага спакою.

Сімвалы сталінскага генацыду ніколі не мелі ўвагі з боку дзяржавы. Хоць у Курапатах было вынішчана ў дзесяткі разоў болей людзей, чым загінула ў Брэсцкай крэпасці, улада ставіцца да гэтай трагічнай мясціны як да адзінокай магілкі. У першую чаргу таму, што Курапаты сталі сімвалам не толькі савецкіх рэпрэсіяў над народам, але і сімвалам абвінавачвання камуністычнага ладу і ўрадаў з боку апазіцыі. Як ні дзіўна, сітуацыя не змянілася ні на ёту. Сёння апазіцыя ў Курапатах ставіць крыжы – улада едзе на іх на бульдозеры. Адсутнасць праекта, які ўтрымоўваў бы хоць нейкія дзеянні па ўшанаванні памяці ахвяраў пры пашырэнні МКАД за кошт іхнай зямлі, яскравы доказ прадуманасці акцыі.

За 13 гадоў дзяржава нічога не зрабіла, каб скласці спіс імёнаў людзей, якія былі тут расстраляныя. КДБ нібыта іх не мае: маўляў, зніклі падчас вайны. Дагэтуль не абнародаваныя нават вынікі расследаванняў нядаўняга часу, тых, якія праводзіла ў Курапатах Ваенная пракуратура ў 1997-1998 гадах. Няцяжка зразумець, што публікацыя спісаў невінаватых людзей, якія атрымалі ў Курапатах кулю ў патыліцу, зрабіла б гэтую мясціну месцам паломніцтва сваякоў ахвяраў – іхных састарэлых дзяцей, унукаў і праўнукаў, і сяброў. І абудзіла б мноства душаў да асэнсавання рэаліяў цяперашняга жыцця Беларусі. Вось гэта, бадай, галоўнае, чаго не хочацца ўладам.

Таму ўлады кіруюцца ўмоўным рэфлексам рэканструявання дзеля свайго выжывання.

Супрацьстаяць яму можа толькі аб'яднаная грамадскасць, якая возьме на сябе працу па складанні спіса ахвяраў, прычым у ім можа быць імя кожнага рэпрэсаванага, калі КДБ не здолее давесці, што гэты чалавек забіты ў іншым месцы.

Магчыма, дзякуючы гэтым здзекам над памяццю соцень тысяч людзей, якія выявіліся на МКАД, памяць пра Курапаты абудзіць зніклы дух народа і паяднае яго для супраціву аўтарытарнаму ладу.

**Агнета КВЯТКЕВІЧ**

## 200.000 преступлений в час

Количество преступлений в мире за последние 10 лет выросло в 4 раза, а в России и США — в 8 раз. Такие данные приводятся в информационно-справочных материалах, распространенных среди участников Международной конференции «Мировое сообщество против глобализации, преступности и терроризма»

По прогнозам специалистов, к концу 2001 г. в мире будет зарегистрировано порядка 450 млн. преступлений. Это означает, что каждый час на планете совершается 200 тысяч правонарушений криминального характера. За рамками официальной статистики остаются преступления «нового поколения» — взломы компьютерных сетей, банковский хакеризм, кражи интеллектуальной собственности. Что касается организованной преступности, то в 90-е годы наиболее ощутимый ее рост отмечен в России и в странах СНГ, говорится в материалах конференции. Если в 1989 г., по оперативным данным правоохранительных органов, в РФ действовало 485 криминальных групп, то в 1995 г. — уже 8.222. В 2000 г. зарегистрировано более 27 тысяч преступлений, совершенных организованными преступными группировками.

## Туркменский рекорд для Книги Гинесса

Ковер площадью 300 кв. м и весом больше тонны, сотканный в честь президента Туркмении Сапармурада Ниязова, включен в Книгу рекордов Гиннеса как самое большое ковровое полотно ручного исполнения. Об этом сообщил представитель госпредприятия Туркменхалы (Туркменковер). Сообщение о регистрации рекорда пришло от координатора лондонского издания Книги рекордов Гиннеса, которая печатается тиражом в 100 млн. экземпляров на 22 языках и распространяется в 70 странах мира, передает *NewsEmax* со ссылкой на *Reuters*.

«Ковер в честь великого Туркменбаши ткали 39 женщин и один мужчина из столичного пригорода Бахарден. На его ахалтекинских «гелях» (орнаментах) запечатлен президентский штандарт и цитаты из морального кодекса туркмен — великой книги «Рухнама», написанной нашим лидером», — сказала директор ашхабадского Музея ковра Тувакбиби Дурдыева.

Создание полотна плотностью более чем 300 тыс. узелков на кв.м, над которым работали почти восемь месяцев, приурочено к десятилетнему юбилею независимости Туркмении — 27 октября 2001 года, сообщила Дурдыева. Этот ковер — четвертый по счету гигант за историю туркменского ковроткачества — получил название «Золотой век — эпоха Великого Сапармурада Туркменбаши». В дни празднования независимости он станет символическим украшением дворцовой площади Ашхабада. В последние годы в Туркмении, славящейся своими коврами, были сотканы два подобных полотна: «Туркменбаши» площадью 266 кв. м и «Президент» в 294 кв. м. Начало традиции было положено после Великой Отечественной войны. Туркменские искусницы тогда выткали ковер «Туркмен калбы» площадью почти 200 кв. м. Он даже использовался в качестве занавеса в Большом театре, когда в Москве проходили дни туркменской культуры.

## Ищут Ноев ковчег

В Калифорнии запущен спутник, оснащенный сверхчувствительными камерами. Он имеет определенную цель – произвести детальную съемку горы Арарат.

Еще в 1949 году аэрофотосъемка зафиксировала на одном из склонов легендарной горы объект, который своими очертаниями напоминал фрагмент корабля. Его длина составляет 180 метров, и может оказаться, что это просто большая груда камней, однако, по мнению археологов и географов, вероятность того, что это и есть остатки библейского ковчега, также велика.

Если сенсационная версия подтвердится, то ученые смогут точно установить дату всемирного потопа. Анализ материала, из которого сделан ковчег, даст ответ на вопрос о климатических условиях библейских времен, а его местоположение объяснит «белые пятна» в теории о тектонических сдвигах земной коры. А, что самое существенное, — подтверждение достоверности предмета (ковчег) заставит более серьезно перечитать мифологический материал многих народов, в котором отражена память далеких предков о потопе. Предания о потопе и ковчеге, помимо Библии, есть в более древних по происхождению шумерских и индийских эпических мифах.

**Индра ОКОВЕЦ**

**СПОРТ**

## Да спорту набліжаецца рэфармацыя

Памочнік прэзідэнта Беларусі па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіцця турызму Мікалай Ананьеў выступае за змяненне сістэмы падрыхтоўкі спартсменаў і ўзмацненне ролі спартыўных федэрацыяў і клубаў. Пра гэта ён заявіў на сустрэчы з журналістамі, арганізаванай паводле ініцыятывы Асацыяцыі спартыўнай прэсы.

«Сістэма падрыхтоўкі спартсменаў у нас засталася савецкай, гэта значыць шматступеньчатай, — сказаў Ананьеў. — Тое, што было прымальна для вялікага Савецкага Саюза, не вельмі прымальна для маленькай Беларусі. Увесь свет пераходзіць на другі ўзровень падрыхтоўкі. Неабходна развіваць грамадскія аб'яднанні — федэрацыі, клубы. Яны павінны ўзяць на сябе функцыі арганізатараў, канцэнтраваць фінансавыя сродкі. Зараз пытанне выдзялення сродкаў вырашае, не раячыся ні з кім, невялікая група людзей. У апараце міністэрства спорту і турызму дастаткова вопытных людзей, але яны сыходзяць, працэсу амаладжэння няма, і хутка туды з вуліцы будуць трапляць. Замест аналітычнай працы яны займаюцца складаннем папераў. Паток папераў вялікі, а патрэбных няма».

Паводле словаў Ананьева, для некаторых чыноўнікаў федэрацыі сталі «кармушкай». Памочнік прэзідэнта падверг таксама крытыцы практыку давядзення да спартсменаў і трэнераў заданняў, якія яны павінны выконваць на міжнародных спаборніцтвах.

У сваёй працы Ананьеў мае намер абапірацца на «вялікі грамадскі актыў», які складаецца з былых спартсменаў і функцыянераў, чый вопыт сёння не запатрабаваны.

Мікалай Ананьеў вярнуўся ў спартыўную галіну пасля паўгадавога перапынку. Ён займаў пасады дарадчыка прэзідэнта па пытаннях спорту, міністра спорту і турызму, віцэ-прэзідэнта НАК, прэзідэнта Беларускай федэрацыі баскетбола. Паводле некаторых звестак, ён звольніўся сам або быў адпраўлены ў адстаўку з гэтых пасадаў у выніку інтрыгаў у асяроддзі спартыўных чыноўнікаў, незадаволеных палітыкай Ананьева. Апошнюю спартыўную пасаду — прэзідэнта баскетбольнай федэрацыі — ён пакінуў у сакавіку 2001 года, з'яўляючыся намеснікам начальніка апарата прадстаўніцтва Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі ў Мінску.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Ад дыскатэчных скокаў – да прыстойных танцаў

*Наскакаўшыся досыць у стылі вясельна-дыскатэчных рытмаў, я прыйшла ў школу бальнага танца «Мара», што пры Мінскім трактарным заводзе. Гэты клуб, дарэчы, ужо тры гады трымае лідэрства ў краіне па спартовых бальных танцах у катэгорыі «фармэйшн».*

Бальныя танцы, якія мы таньчым на аматарскія узроўні, спецыялісты называюць бытавымі. Калі ж танцор бярэ удзел у адмысловых спаборніцтвах, то гэта ўжо спорт.

Па спартовых бальных танцах праводзяцца сусветныя і кантынентальныя чэмпіянаты і кубкі як сярод аматараў, так і паміж прафесіяналаў. Беларусы выступаюць толькі як аматары.

Спаборніцтвы могуць арганізоўвацца сярод параў («індывідуалы») і сярод камандаў («фармэйшн»). Спаборніцтвы «індывідуалаў» праводзяцца па еўрапейскай праграме («стандарт») і лацінаамерыканскай («лаціна»), кожная з якіх складаецца з 5 танцаў. Альбо праграма можа складацца разам і са «стандарту»», і з «лаціны» (10 танцаў).

Каманды спартовага бальнага танца, куды могуць уваходзіць танцоры ад 18 да 35 гадоў, паміж сабой спаборнічаюць толькі па «стандарце» ці толькі па «лаціне». Праграма па «лаціне» ўключае ў сябе румбу, самбу, ча-ча-ча, пасадобль і джайв. «Стандарт» – гэта павольны вальс, венскі вальс, павольны факстрот, танга і квінстэп.

У далёкім замежжы танцы – гэта, у адрозненне ад нас, адзін з самых прэстыжных відаў спорту, кажа кіраўнік і галоўны балетмайстар клуба «Мара» Лідзія Лазарава.

— Калі мы выязджаем на спаборніцтвы, то таньчым у палацах спорту, якія ўмяшчаюць да 100.000 гледачоў, а квіток купіць немагчыма. Кошты на іх ад 25 да 200 долараў.

***— Спадарыня Лідзія, зразумела, што кожны чалавек, калі нап'ецца, лічыць, што ён файна таньчыць. А як вы, прафесіянал, глядзіце на такое «майстэрства»?***

— На тое, як танцуюць у нас на побытавым узроўні, я гляджу з болем. Кожны паважаючы сябе чалавек павінен не толькі ўмець прыгожа гаварыць, валодаць замежнымі мовамі, але і валодаць мастацтвам цела. Неяк мы былі на спаборніцтвах у Мюнхене: там у перапынку паміж выступленнямі грае аркестр, а гледачы выходзяць і таньчаць звычайныя танцы на побытавым узроўні – польку, танга, вальс. Тысячы параў таньчаць вальс – гэта фантастыка. У мяне слёзы з вачэй паліліся, калі я гэта пабачыла. Гэта вышэйшая культура грамадства.

***— На вашую думку, у якім узросце варта пачынаць танцавальную кар'еру?***

— Самы лепшы варыянт, калі пачынаць таньчыць, гэта з 4-5 гадоў. У 14-15 гадоў пачынаюцца чэмпіянаты свету сярод юніёраў. А для таго, каб да гэтага падрыхтавацца, ужо з 7 гадоў яны таньчаць на розных спаборніцтвах.

***— А ў старэйшых шанц ёсць..?***

— Ведаеце, лепш працаваць з маладой «сыравінай», бо з гадамі цела ўсё цяжэй паддаецца трэніроўкам. Натуральна, і сярод старэйшых бываюць выключэнні. Ёсць жа унікальныя танцоры, і мы адсочваем такіх людзей і запрашаем на пробы. Праца – вялікая справа, і калі чалавек мае вялікае жаданне, ён можа зрушыць горы.

***— Якая звычайна частка выхаванцаў застаецца ў спорце, каб займацца ім сур'ёзна?***

— У свой час адзін чэмпіён свету сказаў, што пачынаюць таньчыць 100 параў, працягваюць 50, а застаюцца адна-дзве пары. Так гэта і атрымліваецца. У дарослых адбываецца пераацэнка каштоўнасцяў. Яны павінны для сябе вызначыць, чым займацца ў гэтым жыцці, выбіраюць сабе прафесію, а каб стаць прафесіяналам, гэта патрабуе шмат часу, якога на танцы не застаецца.

***— На вашую думку, дасягненне паспехаў у танчанні залежыць больш ад таленту ці ад настойлівых заняткаў?***

— Я лічу, што дасягнуць значных поспехаў у танцах можна толькі вялікай працай. Ёсць дзеці, якія вельмі таленавітыя, але, на жаль, не працаздольныя. А бывае і наадварот. На маю думку, часцей выйграе той, хто больш працаздольны. Бо трэба ўвесь час удасканальваць сваё цела і рухі. Лета і адпачынкаў у нас практычна не існуе. Калі мы сыходзім у адпачынак, то з'язджаем куды-небудзь на зборы. Напрыклад, у Крым на турнір, каб сумясціць прыемнае з карысным. Бо за адзін месяц можна згубіць пэўнае майстэрства і добрую фізічную форму.

***— Каго прасцей навучыць таньчыць – хлопцаў альбо дзяўчат?***

— З мужчынамі працаваць прасцей. У сувязі з непрэстыжнасцю гэтага віду спорту для хлопчыкаў зрэдку які бацька вырашыць аддаць сына на танцы. Але калі яны да нас трапляюць, то адсоткаў 99 з іх застаюцца. І застаюцца надоўга. У іх больш стабільная цікавасць. А дзяўчынкі больш жвавыя ў выбары інтарэсаў – яны жадаюць і танцамі займацца, і мадэлькамі быць, і паспець у фітнэс-цэнтр. Таму цякучасць дзяўчынак заўсёды большая, чымсьці хлопчыкаў.

***— Месяц таму каманда клуба «Мара» ўзяла ўдзел у чэмпіянаце Еўропы па «лаціне» і па «фармэйшн», які праходзіў у Венгрыі, і ўпершыню ў гісторыі беларускага танцавальнага руху ўвайшла ў лік шасці мацнейшых еўрапейскіх камандаў. Як вам даліся гэтыя вынікі? І ці высокія яны для Беларусі?***

— Да такіх вынікаў мы ішлі 10 гадоў. Мы пачалі ўдзельнічаць у афіцыйных спаборніцтвах толькі з 1990 года, а ўвогуле яны праходзяць з 1947 года. Калі мы ўваходзілі раней у склад СССР, то на спаборніцтвах Саюз прадстаўляла Расія. Першае нашае выступленне было ў 1990 годзе ў Нямеччыне на *OPEN*е — адным з мацнейшых турніраў. Гэта стартавая пляцоўка для іншых турніраў. Удзел у спаборніцтвах там каштуе ад 500 да 1.000 долараў плюс яшчэ транспарт, жытло, ежа. Там мы таксама былі шостымі. Увогуле мы вельмі задаволеныя такімі вынікамі, але трэба яшчэ працаваць і працаваць. Зараз склалася так, што мы адзіная каманда ў свеце, якая таньчыць 2 праграмы – і еўрапейскую, і лацінаамерыканскую. А гэта вельмі складана, бо для іх патрэбная розная тэхніка. Атрымліваецца, што кожны танцор таньчыць «дзесятку». Таму і з выездамі ў нас вельмі цяжка.

***— Распавядзіце, калі ласка, як праходзіць само выступленне на чэмпіянаце?***

— Асноўная праграма займае чатыры з паловай хвіліны. За гэты час 8 танцавальных параў павінны прадэманстраваць 5 танцаў еўрапейскай ці лацінаамерыканскай праграмы. Акрамя гэтага, мусіць быць выхад і сыход, а ўсё разам не можа перавышаць больш за 6 хвілінаў. Мы павінны паказаць пісьменную музыку, якая адпавядае кожнаму танцу, файную харэаграфію, танчанне, музычнасць. Разам з тым мы павінны мець модныя касцюмы, а іх мы вырабляем самі.

***— Можа быць вы яшчэ і самі на швейнай машынцы ўласнымі рукамі робіце кожны з гэтых касцюмаў?***

— Так, у нас ёсць машынка, і педагогі, бацькі самі строчаць, расшываюць, наклейваюць. Самі ўсё робім, але не таму, што мы ўсё можам самі, а таму, што гэта ўсё вельмі дорага каштуе. А мы не маем сёння такіх грошай. Адзін такі касцюм нам абыходзіцца каля 150 долараў.

***— І ўсё ж «Мара» — трэці год запар чэмпіён Беларусі па бальных танцах, да таго ж адзіны клуб, які прадстаўляе краіну на міжнародных спаборніцтвах. Няўжо з боку дзяржавы няма ніякай грашовай дапамогі?***

— На жаль, пакуль ніякіх датацыяў клуб не атрымлівае. Існуем на тыя грошы, якія мы канцэнтруем унутры клуба. Але гэта невялікія грошы (месяц заняткаў у клубе каштуе каля 10 долараў з чалавека. – **А.Л**). У Расіі, напрыклад, заняткі каштуюць ад 25 долараў, а ў мінскай філіі клуба «Тодэс» – да 100 долараў.

Разам з тым пэўную падтрымку на транспартныя выдаткі мы маем ад Мінскага трактарнага завода. Зараз мы выступаем пад імем «Мара МТЗ». Гэта вельмі прыемна. Наш рэйтынг і імідж ад гэтага толькі падвышаюцца. Па ўсім свеце буйныя аўтамабільныя кампаніі вельмі сур'ёзна падтрымліваюць спартовыя танцы.

***— Якія-небудзь краіны з былога Саюза бяруць удзел у міжнародных спаборніцтвах?***

— Літоўцы ў лацінаамерыканскай праграме зараз задаюць тон. Па «фармэйшн» яны былі чэмпіёнамі свету, а на апошнім чэмпіянаце Еўропы таксама занялі першае месца. Яны нам неяк бліжэй, і на спаборніцтвах мы вельмі падтрымліваем адзін аднаго. З былога Саюза яшчэ на чэмпіянаты ездзіць Расія, бывае, прыязджаюць Украіна і Малдова. І больш ніхто, бо гэта досыць цяжка.

***— А якія краіны свету зараз мацнейшыя ў гэтым відзе спорту?***

— Гэта Расія, Германія, Чэхія, Польшча і Англія. Але ж тон па ўсім свеце ў спаборніцтвах задаюць немцы. Яны вельмі моцныя і дужа багатыя традыцыямі. З даўніх часоў яны займаюцца танчаннем у побыце, а з побытавай харэаграфіі няцяжка перайсці ў спартовыя танцы. А мы, на жаль, пачынаем усё з нуля, бо ў нас сёння ў школах не ўведзены абавязковы ўрок танцаў. А ён, безумоўна, павінен быць. Я мару аб гэтым. У мяне таксама ёсць мара стварыць у Мінску такі аздараўляльны цэнтр спартовага танца. Каб да нас прыходзілі дзеці малога ўзросту. І каб мы іх аздараўлялі і рыхтавалі да будучай спартовай дзейнасці. Ведаеце колькі бацькоў прыводзяць да нас сваіх дзяцей і кажуць, што ім параіў урач займацца танцамі. Шмат дзяцей, якія пакутуюць на плоскаступнёвасць, скрыўленне пазваночніка, сутуласць, вываратныя ногі. А ўсё гэта можна было б рабіць у аздараўляльным цэнтры. І мы б мелі здаровых дзяцей, а плюс да таго файныя ўмовы для развіцця спартовых бальных танцаў.

**Гутарыла Алена ЛАБАНАВА**



Танцавальная каманда «Мара» – у пераможным настроі

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Змітер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1777 Нумар падпісаны ў друк 25/10/2001 (15:00) Наклад — 10.340